**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 32 (905) 10 жніўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Грыбны сезон – у разгары!** Карысныя парады грыбнікам – на старонцы 6. *Фота Belsat.eu*



**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**

**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная – 636682**, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.

ISSN 2077-8023



### Верхнядзвінскі раён

## Граніца на замку

■ Чэслаў Якубовіч.

**Вельмі наіўнымі бываюць замежныя грамадзяне, якія ў надзеях знайсці лепшую долю жыць у Еўропе спрабуюць нелегальна прабрацца туды праз беларускую граніцу.** Чарговую такую спробу прадухілілі днямі воіны Полацкага пагранічнага атрада ў Верхнядзвінскім раёне. У той дзень было няўстойлівае надвор'е, ішоў працяглы дождж і нелегалы вырашылі рызыкнуць. Аднак пасля атрыманага сігналу аб з'яўленні ў пагранічнай зоне паблізу граніцы падазроных дзяжурная група са службовымі сабакамі-аўчаркамі за лічаныя хвіліны была ў вызначаным месцы. У трох кіламетрах ля граніцы з Латвіяй супрацоўнікі пагранслужбы затрымалі групу з чатырох грамадзян В'етнама. Усіх іх арыштавалі, пачалі разбірацца, чаму яны рашыліся на незаконныя дзеянні. Парушальнікаў чакае штраф і дэпартацыя з нашай краіны. Дарэчы, сёлета на гэтым участку прыбалтыйскай граніцы полацкія пагранічнікі затрымалі 32 парушальнікі, з якіх 11 – былі выхадцы менавіта з В'етнама. У цэлым жа абстаноўка на граніцы Беларусі з Латвіяй і Літвой застаецца сёлета даволі напружанай. Па дадзеных Інтэрполу, больш за 90 % спроб незаконнага перасячэння дзяржграніцы ажыццяўляюць замежныя грамадзяне, якія з пасобнікамі звязаны з крымінальнымі структурамі. Найбольш актыўнічаюць у рэгіёне менавіта нелегалы з дзяржаў Азіі. Перад гэтым выпадкам на тэрыторыі Пастаўскага раёна паблізу літоўскай граніцы затрымалі групу нелегалаў з Пакістана, а потым сям'ю без дакументаў з Афганістана.

### Пастаўскі раён

## Сапраўдны рай для спажыўцоў

■ Кастусь Александровіч

**Не так і шмат радасных падзей апошнім часам у жыцці большасці суайчыннікаў, але яны тым больш прыемныя, калі адбываюцца.**

Вось і ў Паставах днямі больш чым шэсць тысяч жыхароў буйнога жылога мікрараёна вуліцы Юбілейнай вельмі парадавала адкрыццё патрэбнай крамы крокавай даступнасці. Яе пад назвай "Малочны рай" адкрыў у райцэнтры мясцовы малочны завод, а магазін стаў самым буйным і пятым па ліку ў горадзе. Прадукцыя пастаўчан не мае патрэбу ў дадатковай рэкламе, яе з задавальненнем купляюць пакупнікі за выдатную якасць у многіх населеных пунктах Беларусі. Цяпер для мясцовых жыхароў з'явілася дадатковая зручнасць, бо за пакупкамі жыхарам двух дзясяткаў шматпавярховак не трэба ісці далёка, толькі лічаныя сотні метраў. Час працы фірменнай крамы вельмі зручны, яна працуе з 8 раніцы па да 23 гадзін вечара штотыдзень без выхадных і перапынку на абед. Да таго ж асартымент тавараў вельмі вялікі: тут акрамя свежай малочнай прадукцыі завода можна набыць яшчэ хлебабулачныя вырабы, разнастайныя мясапрадукты, рыбу, кандытарскія прысмакі, лікёра-гарэлачную прадукцыю і піва. У дзень адкрыцця магазіна спажыўцоў было вельмі шмат. Грашовая выручка ў першы дзень працы перавысіла 43 тысячы рублёў і пастаянна застаецца высокай. Сам магазін вырабілі па заказе ў адным з беларускіх прадпрыемстваў. Гатовымі секцыямі яго прывезлі ў горад і зманціравалі, аснасцілі патрэбным абсталяваннем за лічаныя тыдні. Крыху пазней у гэтым мікраараёне пачнецца будаўніцтва буйнейшага ў рэгіёне гандлёва-забаўляльнага цэнтра з гіпермаркетам.

### Беларусь

## За гонар Радзімы

■ Станіслаў Раманчук.

**У пагоні за вялікім рублём многія маладыя беларусы апошнім часам у наш меркантыльны век, асабліва ў спорце, сталі даволі часта здраджваць сваёй радзіме.**

Аднак у гэтай сферы ёсць прыемныя выключэнні, а ўчынак 19-гадовай былой віцьблянкі Віалеты Скварцовай здзівіў нядаўна многіх на кантыненце. На чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы сярод юніёраў у італьянскім горадзе Грасета яна стала чэмпіёнкай у спаборніцтвах па трайным скачку. Пазней, на цырымоніі ўзнагароджання арганізатары першынства замест беларускага памылкова ўключылі гімн Босніі і Герцагавіны. Юная спартсменка ўспрыняла гэта як здзек, пачакала, пакуль паднялі сцяг Беларусі, і сышла з п'едэсталу гонару. Яна вельмі рызыкавала, бо магла быць дыскваліфікавана, пазбавіцца заваяванага залатога медалю і звання чэмпіёнкі Еўропы. На шчасце, гэту памылку прызналі. На наступны дзень паўтарылі цырымонію ўзнагароджання беларускай чэмпіёнкі і над стадыёнам справядліва прагучаў дзяржаўны гімн Беларусі. А вось відэаролік пра дэмарш юнай беларускі за лічаныя гадзіны стаў вельмі папулярным у сетках Інтэрнэту, яго прагледзелі звыш двух мільёнаў чалавек. Наша зямлячка, якая перабралася перад гэтым жыць і трэніравацца ў беларускую сталіцу, даказала многім скептыкам, што жыве беларуская ідэя і сапраўдны патрыятызм. Сваю Радзіму нават з многімі праблемамі і недахопамі любіць і паважаць трэба кожнаму суайчынніку, калі мы жадаем "людзьмі звацца". Маладая беларуска сваю важкую перамогу і дастойны ўчынак прысвяціла сваёй маме і паважанаму трэнеру Уладзіміру Шагуну.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 10.08.17 | | | | Пятніца 11.08.17 | | | | Субота 12.08.17 | | | | Нядзеля 13.08.17 | | | | Пн.14.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +20 | +26 | +23 | +20 | +22 | +28 | +25 | +21 | +23 | +32 | +27 | +22 | +24 | +25 | +18 | +16 | +16 | +20 |
| Ціск | 753 | 752 | 751 | 749 | 748 | 747 | 747 | 746 | 745 | 745 | 745 | 744 | 743 | 743 | 744 | 746 | 747 | 750 | 752 |
| Вецер м/сек | 5 Пд | 5 Пд | 6 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 3 Пд-З | 2 Пд | 2 У | 3 У | 2 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 4 Пд-З | 4 З | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 6 Пн-З | 5 Пн-З |
| Вільготнасць | 77 | 72 | 56 | 73 | 91 | 88 | 72 | 92 | 100 | 86 | 44 | 66 | 77 | 68 | 72 | 82 | 92 | 66 | 47 |

## Аб самым надзённым

### НОВЫЯ МАШТАБНЫЯ САНКЦЫІ ЗША СУПРАЦЬ КРАМЛЯ ЎДАРАЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ПА НАШЫХ СУСЕДЗЯХ, ПАЦЕРПЯЦЬ МНОГІЯ ДЗЯРЖАВЫ ЕЎРОПЫ, УКЛЮЧАЮЧЫ БЕЛАРУСЬ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Па ацэнках спецыялістаў, дагэтуль заходнія санкцыі каштавалі рускім спаду ВУП РФ прыкладна да 1,2 % у год. А ўжо ў наступным годзе, калі Пуцін застанецца на новы тэрмін у галоўным крамлёўскім кабінеце, ва ўмовах новых санкцый расійская эканоміка не далічыцца 3 і болей % ВУП, страты пойдуць на трыльёны рублёў.**

Наша жыццё пралятае вельмі хутка. Днямі споўнілася, страшна падумаць, ужо 27 гадоў, як Беларусь прагаласавала за выхад з СССР. Вось столькі мінула часу, як пасля распаду той савецкай звышдзяржавы, мы жывём ва ўласнай суверэннай краіне. Але ж нездарма нам яшчэ ў школе казалі, што гісторыя развіваецца пастаянна па спіралі. Наша старэйшае пакаленне становіцца зноў сведкамі новай, яшчэ больш сур'ёзнай "халоднай вайны" ў свеце. Між тым, мінула таксама 3 гады, як у адносінах суседняй з намі Расіі працягваюць дзейнічаць заходнія санкцыі, як Еўрасаюза, так і ЗША.

На расійскіх прасторах, а найперш у крамлёўскіх кабінетах, думалі, што ім сыдзе з рук тая агрэсіўная палітыка, якую РФ пачала ў адносінах тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны. Нахабна, а інакш і не скажаш, пуцінцы забралі ў нашых паўднёвых суседзяў Крым, распалілі вайну ў Данбасе, палезлі са сваім войскам у ахопленую грамадзянскай вайной Сірыю. Гэтага афіцыйнай Маскве стала мала, яна яшчэ занялася дзёрзкімі кібератакамі, паспрабавала паўплываць на вынікі прэзідэнцкіх выбараў у амерыканцаў. Многія расіяне спачатку радаваліся, што ў ЗША прыйшоў да ўлады імпульсіўны палітык Дональд Трамп, а зараз вось як выйшла.

Менавіта праз 80 гадоў, як найперш на расійскіх прасторах пачаўся перыяд страшных сталінскіх рэпрэсій, надзеі на паляпшэнне адносін паміж рускімі і амерыканцамі канчаткова рухнулі. Расію ў кампаніі яшчэ двух сусветных ізгояў КНДР і Ірана афіцыйна далучылі да трох асноўных ворагаў ЗША і ў Вашынгтоне нанеслі новымі санкцыямі моцны ўдар найперш па расійскіх трубаправодах. З-за вельмі вялікай розніцы ў эканамічным патэнцыяле ЗША і РФ, ужо і расійскія СМІ прызнаюць, што іх краіна сур'ёзна пацерпіць: сакрушальны ўдар нанесены па інфраструктуры з 90 трубаправодаў, якія ідуць у 12 дзяржаў свету. Разам з імі пацерпіць і экспарт расійскай нафты і газу.

Такія крокі расійскі лідар У. Пуцін назваў "хамствам", але ж што ты, даражэнькі, раней рабіў, аб чым думаў? Ва ўсялякім выпадку такі праект "Газпрама", як "Северный поток-2", цяпер можа лопнуць, бо не захочуць заходнія кампаніі-партнёры з рускімі звязвацца, каб не трапіць пад амерыканскія санкцыі. Ціскам на Крэмль у гэтай сферы справа не заканчваецца, паколькі ЗША ўвялі новыя абмежаванні для дзейнасці расійскіх банкаў і энергакампаній за граніцай, пад прэс амерыканцаў патрапілі ключавыя палітычныя фігуры РФ і алігархі, блізкія да Крамля. Як вядома, нават кіраўніцтва ЕС рэзка раскрытыкавала новыя санкцыі ЗША.

Нам, беларусам з гэтай нагоды важна, што яшчэ больш абяднее наш галоўны гандлёвы партнёр, стане меней купляць беларускіх тавараў. Па ацэнках спецыялістаў, дагэтуль заходнія санкцыі каштавалі рускім спаду ВУП РФ прыкладна да 1,2 % у год. А ўжо ў наступным годзе, калі Пуцін застанецца на новы тэрмін у галоўным крамлёўскім кабінеце, ва ўмовах новых санкцый расійская эканоміка не далічыцца 3 і болей % ВУП, страты пойдуць на трыльёны рублёў. Рускія, ужо відавочна, адчуюць далейшы рост цэн, падаражэюць прадукты харчавання і бытавыя тавары, знізяцца іх заробкі, вырасце беспрацоўе. Непрыемна і для нас, што ў такіх умовах можа знізіцца курс расійскага рубля, ад чаго пацерпіць і нацвалюта Беларусі.

Пакуль жа нашы суседзі на новыя санкцыі ЗША адказалі высылкай адразу 755 амерыканскіх дыпламатычных супрацоўнікаў, забаранілі іх дыпламатам карыстацца складамі ў Маскве і дачай у Сярэбраным Бары. На жаль, гэта толькі пачатак далейшага пагаршэння ўзаемных адносін паміж гэтымі краінамі. Расія, што варта ведаць, зараз даволі слабая эканамічна краіна, яе патэнцыял у 10 разоў саступае магчымасцям еўрапейскай эканомікі, не кажучы ўжо пра ЗША. Рускія могуць прадаваць на Захад фактычна толькі нафту і газ, яшчэ некалькі відаў сыравіны. Нават у ЕС патрэбнасць, як раней, у рускай нафце і газе нязначная, яе энерганосьбіты могуць замяніць танкеры з амерыканскім звадкавым газам, а вось за акіянам у гэтай сітуацыі адчувальна выйграюць.

Беларусам важна цяпер падтрымліваць добрыя адносіны з рознымі партнёрамі ў свеце, што і прадэманстраваў нядаўні плённы афіцыйны візіт А. Лукашэнкі ва Украіну. Падчас яго прайшоў у Кіеве беларуска-ўкраінскі бізнесфорум з удзелам амаль 90 айчынных і звыш 380 украінскіх кампаній. Ад новых уведзеных санкцый, між тым, украінцы толькі выйграюць, яны ў жніўні пачалі працаваць у зоне свабоднага рынку з Канадай і атрымалі бяспошлінны выхад на канадскі рынак. Сапраўды, у беларусаў ёсць патэнцыял нарасціць з украінцамі штогадовы тавараабарот да 8 млрд. долараў. У цэлым жа вяртанне да змрочных часоў халоднай вайны нікога не радуе, бо калі пачнецца гонка ўзбраенняў, то вырасце і геапалітычнае напружанне ў рэгіёне, а гэта шкодзіць і беларускай эканоміцы.

## Дзень за днём

**Рост ВУП Беларусі сёлета не перавысіць 2 %. З 1 жніўня ў Беларусі выраслі дапамогі на дзяцей да 3-х гадоў. З-за дрэннага росту яравых уборка збожжа зацягнецца, намалот не перавысіць 7,3 млн. тон. Знешні дзярждоўг Беларусі вырас сёлета яшчэ на 1,9 млрд. долараў. Сярэднія зарплаты беларусаў наблізіліся да 820 рублёў. ПАСЕ асудзіла 2 новыя пакаранні смерцю ў Беларусі. Навальніцы і ліўні абясточылі 283 населеныя пункты краіны, 9 раёнаў было падтоплена. Узрост 100 гадоў пераўзышлі 395 беларусаў. У Беларусі зноў падаражэлі цыгарэты. Другая палова вясны стала самай халоднай з часоў вайны.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Палатапрадстаўнікоў Кангрэса ЗША прыняла закон аб барацьбе з Расіяй, якую прыраўнялі разам з Іранам і КНДР да ліку галоўных праціўнікаў краіны.

**Германія.** Нямецкае МЗС заклікала краіны ЕС увесці новыя санкцыі супраць Мінэнерга Расіі, шэраг кампаній і чыноўнікаў РФ за пастаўкі турбін Siemens у Крым.

**Польшча.** Пасля масавых акцый пратэсту ў краіне і рэзкай крытыкі ў ЕС прэзідэнт Анджэй Дуда наклаў вета на закон аб рэформе польскай судовай сістэмы.

**Украіна.** Прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Д. Пяскоў папярэдзіў, што пастаўкі ўкраінцам сучаснай супрацьтанкавай зброі з ЗША толькі абвастраць канфлікт у Данбасе.

**Расія.** Многія адыёзныя СМІ РФ крайне нервова адрэагавалі на сустрэчу А. Лукашэнкі з П. Парашэнкам у Кіеве і назвалі яе "змовай супраць Расіі".

**Германія.** Палітолаг К. Эггерт заявіў, што наступствы аб'яўленай ЗША халоднай вайны Крамлю будуць маштабнымі не толькі для рускіх, але, магчыма, і для ўсяго свету.

**Ізраіль.** Пасля пратэстаў палесцінцаў улады прыбралі металашукальнікі пры ўваходзе на Храмавую гару, арабы раней тут забілі двух паліцэйскіх і пачаліся сутычкі ў Іерусаліме.

**Кітай.** На сусветнай выставе электронікі "Tech World 2017" кітайская кампанія Lenovo паказала свой новы планшэт, які можа згінацца нават напалову.

**Англія.** Вучоныя з Ізраіля, як паведаміла Times, выявілі зніжэнне на 52,4 % канцэнтрацыі спермы ў мужчын Паўночнай Амерыкі, Еўропы, Аўстраліі і Новай Зеландыі.

**Расія.** Еўразійскі банк развіцця прапанаваў цэнтрабанкам краін-членаў ЕАЭС стварыць рэгіянальную разліковую грашовую адзінку па прыкладзе экю, яна была ў Еўропе да еўра.

**Узбекістан.** Улады арыштавалі дачку былога прэзідэнта краіны І. Карымава Гульнару, ёй прад'явілі абвінавачванні адразу па 6 артыкулах крымінальнага кодэксу.

**Швейцарыя.** У выніку адной з самых буйных аблаў у гісторыі краіны паліцыя затрымала праз пару дзён мужчыну, які напаў на людзей з бензапілой у горадзе Шаффхаўзен.

**Украіна.** Днём у ДТЗ ля Кіева на аўтатрасе на Адэсу пацярпелі адразу 9 беларусаў, з іх двое дзяцей, калі кіроўца выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з 2 легкавушкамі.

**Грузія.** За квартал правам паехаць у ЕС без віз скарысталіся 55 тысяч грамадзян краіны, з іх 3 тыс. грузін не вярнуліся назад на радзіму пасля 90 дзён знаходжання ў зоне Шэнгену.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск распарадзіўся адключыць усе фантаны Апостальскай сталіцы з-за моцнай засухі ў Італіі, у Рыме адключаюць падачу вады да 8 гадзін у суткі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На нарадзе па перспектывах машынабудавання А. Лукашэнка выказаў сумненні, ці трэба краіне ўвязвацца ў стварэнне новых відаў трактароў на базе "Амкадора".

**Бараўляны.** У РНПЦ анкалогіі і радыялогіі прызналі, што чэргі на апраменьванне хворых на рак выраслі з-за работ па замене аднаго апарату на новы і рамонту аднаго з дзеючых.

**Брэст.** Кампанія "Савушкаў прадукт", лідар малочнай галіны Беларусі купіла акцыі яшчэ дзвюх гаспадарак вобласці і завода па вытворчасці сыроў у Камянецкім раёне.

**Барысаў.** Услед за Аршанскім раёнам, як пацвердзіў прэм'ер-міністр А. Кабякоў, урад распрацоўвае стратэгію ўстойлівага развіцця і гэтага рэгіёна краіны.

**Мінск.** Ваенны эксперт А. Паротнікаў заявіў, што істэрыю вакол правядзення вучэнняў "Захад-2017" штучна распальвае Расія, каб паказаць, як мы моцна залежам ад Масквы.

**Магілёў.** З 7 бясплатных месцаў у ВНУ краіны на дзённую форму навучання 6 засталіся вакантнымі ў дзяржуніверсітэце імя А. Куляшова, яго выпускніком быў А. Лукашэнка.

**Мінск.** Еўрапейскі банк ЕБРР даў крэдыт у суме 5 млн. еўра ЗАТ "Чысты бераг" на стварэнне 10 экспрэс-магазінаў сантэхнікі і труб для прафесійных мантажнікаў Беларусі.

**Салігорск.** У міжнародны вышук абвясцілі кіраўніка мясцовай камерцыйнай фірмы, які наўмысна яе абанкроціў, прадаў маёмасць, каб не аплочваць крэдыты і ўцёк.

**Брэст.** Міліцыя затрымала двух гаражан ва ўзросце 19 і 34 гадоў, якія моцна пасварыліся са сваімі маці і забілі іх у адзін і той жа дзень, па гэтых справах пачалося следства.

**Жыткавічы.** На тэрыторыі раёна 19-гадовы кіроўца не ўступіў галоўную дарогу, у выніку сутыкнення загінуў 55-гадовы вадзіцель іншамаркі, у падобным ДТЗ яшчэ параніла дваіх.

**Магілёў.** Больш за сто чалавек падманулі трое работнікаў мясцовага моргу на суму звыш 5700 рублёў, карыстаючыся цяжкім маральным станам родных памерлых.

**Гомель.** Абласны суд пакараў 11 гадамі турмы 36-гадовую жанчыну за спробу арганізацыі забойства наёмным кілерам былой жонкі мужа і іх непаўналетняй дачкі.

**Рэчыца.** Пад вечар на дарозе ля вёскі Васількова ласіха нечакана выбегла пад калёсы аўто, у выніку ДТЗ загінула 45-гадовая жанчына, яе муж і кіроўца другой машыны ў бальніцы.

**Мінск.** Да канца лета ў гандлёвым цэнтры побач са станцыяй метро "Усход" адкрыюць самы сучасны кіназал Voka на 235 месц з самым вялікім экранам 3D у Беларусі.

**Брэст.** За 50 мінут моцнага лівня з навальніцай у горадзе выпала 35 % дэкаднай нормы ападкаў, вуліцы аказаліся затопленыя вадой, на працягу сутак стыхія накрыла рэгіён.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Яшчэ ў 4 краіны свету ў Грэцыю, Англію, Эстонію і Саудаўскую Аравію пачало пастаўляць нафтапрадукты СТАА "ЛЛК-Нафтан", экспарт вырас на трэць.

**Віцебск.** Нягледзячы на халодную вясну, як заявілі вучоныя Інстытута лесу НАН Беларусі, ураджай грыбоў у Прыдзвінні сёлета будзе вышэй мінулагодняга.

**Орша**. Праверка абласнога камітэта Дзяржкантролю выявіла, што ААТ "Орша-сервіс" і "Вітміл" у Віцебску дапусцілі парушэнні пры арганізацыі харчавання школьнікаў.

**Лёзна.** Каля 7 гадзін вечара ў вёсцы Асіпенкі загінуў пад коламі паўпрычэпа-карамараздатчыка 6-гадовы хлопчык, пляменнік маладога трактарыста.

**Шуміліна.** Больш 20 тысяч рублёў штрафу заплоціць браканьер, якога затрымалі на возеры Мошна за вылаў 58 буйных рыб трымя сеткамі падчас нерасту.

**Віцебск.** Ва ўзросце 63 гады пайшоў з жыцця вядомы краязнаўца Алег Куржалаў, які шмат зрабіў, каб жыхары вобласці ведалі свае радаводы, праўдзівую гісторыю краю.

**Лепель.** Раніцай аўтаномны пажарны апавяшчальнік падаў сігнал і выратаваў жыццё пенсіянеру з вёскі Прудок, 67-гадовы гаспадар пакінуў палаючую хату і не пацярпеў.

**Бешанковічы.** Пераможцам чарговага чэмпіянату вобласці "Лесаруб-2017" стала каманда Бягомльскага лягасу, 2-е месца ў вальшчыкаў лесу з Глыбокага, 3-е – у пастаўчан.

**Верхнядзвінск.** На працягу чатырох дзён ля Кургана Дружбы праходзіў XXVI Міжнародны маладзёжны лагер "Бе-La-Русь", толькі беларусаў было звыш 300 чалавек.

**Полацк.** Рэдакцыя часопіса "Алеся" цалкам прысвяціла чарговы нумар выдання палачанкам розных пакаленняў, ён прымеркаваны да 1155-годдзя старажытнага горада.

**Друя.** У мястэчку прайшоў III Міжнародны мастацкі пленэр "Скарынер" з удзелам 40 творцаў, прысвечаны 500-годдзю выдання Ф. Скарынам Бібліі па-беларуску.

**Паставы.** У буйным жылым мікрараёне горада мясцовы малзавод адкрыў яшчэ адзін свой фірменны магазін "Малочны рай", завод выйшаў на перапрацоўку 280 тон малака ў суткі.

**Глыбокае.** А палове трэцяй гадзіны ночы загарэлася лазня памерам 4х5 метраў у вёсцы Залессе, агонь знішчыў дах, пашкодзіў столь, прычыну пажару ўстановяць пазней.

**Докшыцы.** З дапамогай набытых некалькіх фоталавушак райкамунгас пачаў эфектыўна змагацца са стыхійнымі сметнікамі ў райцэнтры, якіх стала значна меней па горадзе.

**Браслаў.** Нацпарк "Браслаўскія азёры" выставіў на продаж на аўкцыёне прагулачны цеплаход 1951 года пабудовы, судна запатрабавала рамонту, дыягностыкі ўсіх сістэм.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*



## Святлана Баранкоўская: Тут сапраўдная закансерваваная гісторыя нашых мясцінаў

**У Лужках у 27-ы раз прайшоў мастацкі пленэр. Арганізаваны ён быў культурна-асветніцкім Цэнтрам імя Язэпа Драздовіча пра падтрымцы Віцебскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў і Шаркоўшчынскага райвыканкама. На гэты раз пленэр быў прысвечаны Халакосту.**

■ **Зміцер Лупач**

Гэта ўжо другі пленэр, прысвечаны гэтай тэме. Чаму, тлумачыць кіраўнік культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча **Ада Райчонак**:

– Я сама напалову габрэйка, я – дачка двух народаў. Я сама малалетні вязень, прайшла праз гета, праз канцлагер, мне дасталося па завязку.

Калісьці габрэі складалі больш за палову насельніцтва Лужкоў, дарэчы, як і шмат іншых нашых мястэчак. Некалькі стагоддзяў яны мірна ўжываліся з беларусамі, прадстаўнікамі іншых народаў, што спрадвеку жылі на гэтай зямлі. Праўда, былі ахвотныя абвінавачваць габрэяў у розных сваіх праблемах. Былі пагромы і пры царскай уладзе, і палякі праводзілі не самую дружалюбную палітыку ў адносінах да гэтага народа, а ў апошнюю вайну нянавісць дасягнула свайго піку, калі амаль усе габрэі былі знішчаны. Тыя ж, якім пашчасціла выжыць у тыя страшныя часы, у сваёй большыні з'ехалі ў Ізраіль. Але ж лепшым жыццё на гэтых землях ад гэтага не стала.

Таму мастакі і хочуць сваёй працай паказаць, да чаго можа прывесці нянавісць.

Тэме Халакосту прысвяціў сваю карціну і выкладчык з Віцебска **Часлаў Шамшур**:

– Вырашыў стварыць такую кампазіцыю, такі набор сімвалаў, якія характарызуюць такую страшную з'яву як гета. Гэта паламанае дрэва, з абпілаванымі сукамі, гэта моцныя дзверы, гэта плот, што ізалюе габрэяў. Думаю, што мне гэта ўдасца перадаць на сваёй працы.

А яшчэ ў Лужках вельмі прыгожыя мясціны, гэта мястэчка можна лічыць музеем пад адкрытым небам. Нават нягледзячы на тое, што шмат што з яго гісторыі зараз ляжыць у руінах.

Гаворыць кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў **Святлана Баранкоўская**:



– Тут сапраўдная гісторыя, закансерваваная, гісторыя нашых мясцінаў. Дзе людзі памятаюць, дзе дом графа, дзе жыў генерал Балаховіч, як жылі за палякамі, як жылі за аднымі і другімі Саветамі, тут памятаюць паўстанні, памятаюць вайну, памятаюць Халакост. І гэта і ёсць наша агульная беларуская памяць. Калі мы любім тое, што было да нас, з павагай ставімся да падзеяў, якія тут адбываліся, і з адказнасцю ставімся да сваёй будучыні.

Нас некалі вучылі, што наша гісторыя – гэта бульба, лапці, саломка, а насамрэч наша гісторыя – гэта электрычнасць, яна тут была, калі не ва ўсёй Еўропе яе ведалі, гэта вельмі сур'ёзны падыход да земляробства. Вось тут жылі графы Плятары, яны ж жылі тут назаўжды, рабілі назаўжды, і, дасць Бог, гэта адновіцца, і гаспадары гэтай зямлі будуць ставіцца з павагай да яе.

Па выніках пленэру ў пачатку студзеня ў Віцебску будзе адкрытая выстава.



■ Уладзімір Скрабатун

## Віктар Жаваранак:
# Ніхто не адважыцца сказаць спадару Протасу праўду!

Падчас нядаўняй вандроўкі ў колішні глыбоцкі "Цэнтр Еўропы" аўтар гэтых радкоў, журналіст Зміцер Лупач і відэажурналіст Леанід Юрык, завіталі ў вёску Хралы да спадарства Жаваранкаў. Віктар Жаваранак – наш даўні знаёмы. Працуе кіроўцам аўтамабіля ў Дзвінскім лясгасе, а на час нашага візіту знаходзіўся ў водпуску. Чалавек з краязнаўчымі схільнасцямі. Добра ведае свой край. Менавіта Віктар і паказаў глыбоцкім журналістам самы вялікі камень Глыбоччыны ля возера Белага, самага празрыстага возера Беларусі. (*Гл."ВГ", №37 за 10 верасня 2015 г.– "Самы вялікі камень Глыбоччыны – у "Цэнтры Еўропы"*).

Аднак Віктар Жаваранак найбольш адзначыўся тым, што знайшоў месца апошняга спачыну Паўла Палчынскага, камандзіра польскай заставы Каменны Воз у Галубіцкай пушчы. Павел Палчынскі на досвітку 17 верасня 1939 года прыняў няроўны бой з Чырвонай Арміяй, якая перайшла польска-савецкую мяжу. Паклаў з кулямёта шмат парушальнікаў дзяржаўнай мяжы. Сам загінуў. У пасляваенныя дзесяцігоддзі сярод старажылаў толькі і былі размовы пра гэты няроўны бой. І менавіта Віктар, які паставіў сабе на мэту знайсці пахаванне Паўла Палчынскага, яго і знайшоў. Пры ўзворванні пажарабяспечнай паласы ў пушчы, недалёка ад пад-муркаў заставы, плуг выvěрнуў парэшткі чалавека... Парэшткі Паўла Палчынскага ў прысутнасці прадстаўнікоў польскай амбасады і вайсковага аташэ Яна Меньшынскага 17 верасня 2011 года ўрачыста перапахавалі на Копцеўцы ў Глыбокім.

Гэтым разам ва ўтульнай Віктаравай альтанцы абмяркоўвалі прыродныя анамаліі гэтага года. Ці шмат грыбоў і ягад?



Фінскі "камбайн" у руках Змітра Лупача.

– *Ніхто не адважыцца задаць спадару Протасу адно пытанне?*– кажа Віктар. – *Чаму ва ўсім свеце дазволена збіраць "камбайнам" ягады – чарніцы, брусніцы і марошку – а на Беларусі нельга? Не, вы не падумайце, што я з жонкай збіраю ягады камбайнам, але маю ў сваёй калекцыі фінскі "камбайн", які на законных падставах, вольна, набыў у краме ў Польшчы. Але ж ніхто ў нас і не паверыць, калі не пакажаш!*

– *Мы бачылі нават відэасюжэт па тэлевізары, як у Фінляндыі збіраюць чарніцы "камбайнамі"!* – умешваецца ў абмеркаванне Наталля, жонка Віктара. – *Калі ягадны год – ягады ёсць, не ягадны, як гэты – і ягад няма! Прычым тут "камбайны"!*

– *У Фінляндыі – прыватная ўласнасць!*– дадае Віктар. – *Няўжо прыватнік будзе сам губіць свой лес і ягаднікі? Аднак прыватнік наймае работнікаў для збору ягадаў, выдае кожнаму па "камбайну", ставіць іх ланцугом праз метр адзін ад аднога, і "фронтам" – ідуць і збіраюць ягады. Праўдападобна і ў Польшчы не забаронена збіраць ягады "камбайнамі", раз тыя фінскія "камбайны" вольна прадаюцца ў крамах!*

– *Ну, так!*– дадае Зміцер Лупач. – *З іхнімі тэхналогіямі на Захадзе – няўжо б не зрабілі высновы, што збіраць "камбайнамі" – шкодна для ягаднікаў? Аднак у іх не забаронена! То бок – не шкодна!*

– Ну, чаму, усе баяцца?– пярэчыць аўтар гэтых радкоў. – Я й сам задаваў Аляксею Віктаравічу Протасу правакацыйныя пытанні. Напрыклад, па нашых законах, злоўленага вугра трэба адпускаць... Я яму і сказаў: "Калі б Вы самі хоць раз у жыцці злавілі б вугра, то ведалі, што той вугор заглынае лескі з кручком сантыметраў на 10-15. Як дастаць кручок? Сам у Латвіі некалі вывудзіў двух вугроў! Слізкі, гад! У руках не ўтрымаць! Выслізгвае – хоць плач. Паспрабуй яму даць рады! Толькі адно выйсце – трымаючы яго на лесцы закінуць у цэлафанавы мяшок, адрэзаць леску, а мяшок завязаць на вузел, каб не збег! І як яго з кручком у жываце адпусціш? Падохне! А дастаць кручок – трэба разрэзаць пажывата!"

– *І што адсказаў спадар Протас?*– запыталі прысутныя.

– Сказаў тое, што і мусіў сказаць: "Па закону – трэба адпускаць!"

– Ведаеце, Аляксей Віктаравіч – дзяржаўны служачы, кіраўнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь! Кантралюючы орган, які мусіць сачыць за выкананнем пастановаў і Законаў дзяржаўных органаў. Не ён жа прымае гэтыя пастановы і Законы.

Тут можна доўга дыскутаваць! Шмат хто казаў асабіста аўтару гэтых радкоў аб абсурднасці некаторых пастановаў. І гэта – не простыя, звычайныя людзі, а выкладчыкі ВНУ, прафесары, якія павыдавалі кнігі. Барыс Уласаў, азёразнаўца, які ўлетку жыве на хутары Скрабатуны, абураўся адзін раз, што нейкія дзве цёткі з Мінпрыроды, абсалютна не ў тэме, не параіўшыся з намі, спецыялістамі, прынялі рашэнне, што падчас нерасту нельга заходзіць у ваду. Абсурд! Але ўзаконілі! І людзей цяпер штрафуюць. – Рака Страча – на Пастаўшчыне-Мядзельшчыне – там стронга (фарэль) водзіцца. Я там зрабіў заказнік, як, дарэчы, і азёры Доўгае і Белае на Глыбоччыне. Самае прыдатная рака Беларусі для сплаву на байдарках! І калі, як не падчас высокай вады (паводкі) па ёй сплаўляцца! А па закону – нельга! Няўжо вёсламі распалохаеш рыбу?" (*Чытайце інтэрв'ю з БарысамУласавым – "Баклан – біч Беларусі", "ВГ", №52 (612), 29. 12. 2011 года.)*

**PS.** ***Самае цікавае, ведаеце што? Вось, калі б на Беларусі былі прыватныя азёры, рэкі і лясы, як у Фінляндыі ці Эстоніі, то ці дазволіў бы гаспадар леса, вольна і абы каму, збіраць "камбайнам" яго ягады? Вудзіць рыбу ў яго сажалцы? Усюды добра, дзе нас няма…***



Віктар Жаваранак (на пярэднім плане).

## Лукашэнка – старшыням райвыканкамаў:
# «Не трэба боўтацца па раёне і рабіць выгляд, што вы нешта кантралюеце»

**Аляксандр Лукашэнка на перыяд уборкі даў старшыням райвыканкамаў «самыя шырокія паўнамоцтвы». Пра гэта ён заявіў на селектарнай нарадзе па пытаннях уборкі ўраджаю.**

*«Рашэнні старшыні райвыканкама да 1 кастрычніка 2017 года, звязаныя з уборачнай кампаніяй, канчатковыя і абскарджанню не падлягаюць. Калі старшыні райвыканкама трэба ажыццявіць тыя ці іншыя дзеянні, значыць, ён іх будзе ажыццяўляць. Ніхто не мае права ўмешвацца ў яго распарадча-арганізацыйныя функцыі. Паправіць яго можа, калі ён пагодзіцца, толькі губернатар,* – заявіў кіраўнік дзяржавы. — *Я гэта кажу для таго, каб потым не было спасылак, што ў некага не хапіла паўнамоцтваў, каб прыбраць хлеб».*

Аляксандр Лукашэнка таксама адзначыў, што ў кожным раёне ёсць толькі каля трох-чатырох праблемных гаспадарак. *«Вось займайцеся імі. Не трэба боўтацца па раёне і рабіць выгляд, што вы нешта кантралюеце. Тады едзьце туды, дзе вы патрэбныя. Вось за гэтыя тры гаспадаркі персанальную адказнасць нясе старшыня райвыканкама. Таму яму дадзены ўсе паўнамоцтвы. Дзейнічайце! Улада ў вашых руках»,* — заявіў ён.

*nn.by*

# Беларускія аграрыі намалацілі ўжо амаль 2,8 млн т збожжа

**8 жніўня, Мінск. Беларускія аграрыі намалацілі ўжо амаль 2,8 млн т збожжа. Аб гэтым сведчыць аператыўная інфармацыя Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, паведамляе БелТА.**

Па стане на 8 жніўня ў Беларусі намалочана амаль 2,8 млн т збожжа, з якіх 814,1 тыс. т – аграрыямі Брэсцкай вобласці, 538,2 тыс. т – Гомельскай. У Мінскай і Магілёўскай абласцях намалочана 580,1 тыс. т і 284 тыс. т збожжа адпаведна, у Гродзенскай – 464,2 тыс. т, у Віцебскай, якая апошняй уключылася ў жніво, – 113,8 тыс. т. Збожжавыя і зернебабовыя ўбраны з 786,6 тыс. га, што складае 34,8 працэнта ад агульнай плошчы. Лідарам па-ранейшаму з'яўляецца Брэсцкая вобласць, дзе ўбрана 65,3 працэнта плошчаў. У сярэднім з аднаго гектара ў бягучым годзе аграрыі ўбіраюць 35,5 ц збожжа.

*БелТА*



**Мікола Андзілеўка,**
*курорт Баравое.*

З паштовай скрынкі рэдакцыі. Меркаванні нашых чытачоў.

# Чаму бязлюдныя дарожкі стадыёна?

У Глыбокім нядаўна пабудавалі новы стадыён. Па беларускіх крытэрыях – суперстадыён, а яшчэ лепш, каб яго будавалі немцы, то гэта быў бы еўрапейскі стадыён. Але, і гэты стадыён для нас вельмі шыкоўны, асабліва карычневая бегавая дарожка, якая нагадвае дарожку такога ж колеру Алімпійскага стадыёна ў Мехіка 1968 года, дзе ўпершыню ў свеце гаравыя дарожкі былі замененыя сінтэтычным пакрыццём – тартанам, рэкартанам, спартанам. Ну, дарожкі – супер, толькі бегай, ды атрымлівай асалоду жыцця.

Я не разумею, чаму так адбываецца, датуль, пакуль не зайшоў да свайго чалавека ў паліклініку – я ледзьве працiснуўся – там, як у савецкія часы на стадыёне – цемра цямнюткая!

Думаў, што ўсе людзі ў Глыбокім здаровыя, бо ходзяць па вуліцах у добрым настроі. І прыйшоў да высновы, што, чым бегаць, селі пасядзець у паліклініцы – і ўсе праблемы вырашацца. Але яны не ведаюць, што калі кожны дзень бегаць, то ногі будуць здаровыя, сэрца, лёгкія таксама, ды ўвогуле – увесь арганізм. Калі пабегаць гадзіну-другую, то ўжо праз 10 хвілін пасля бегу ціск крыві становіцца 110/70, а то і 100/60. Пра гэта піша расійскі доктар Мяснікоў, які працаваў у Францыі, Афрыцы, Амерыцы, а цяпер кіруе самай вялікай клінікай у Расіі. А колькасць удараў сэрца апускаецца да 50. А ў спартсменаў бывае да 40 і, нават 30. Гэта – нармальная рэакцыя арганізма на нагрузку. Колькасць глікагена –цукру ў цягліцах чалавека хапае толькі на 28 км бегу, пасля гэтага хуткасць марафонца падае. Таму марафонцы за тыдзень да марафона ядуць шмат вугляводаў (цукерак). З гэтага вынікае, калі чалавек з цукровай хваробай прабяжыць 28 км, то цукар увесь згарыць. З гэтай хваробай людзі павінны бегаць! Ёсць унікальная кніга Гарта Гілмара «Бег дзеля жыцця», 1968 г. Нядаўна індус Тарнада, які жыве ў Лондане і мае 104 гады, абвясціў, што заканчвае кар'еру марафонца, але, усё роўна, кожны дзень бегае 4 гадзіны. Ёсць дактары, якія маюць званне заслужанага доктара Беларусі, прачытаўшы на кардыёграфе 50 удараў сэрца на хвіліну, прыпісваюць пігулкі, каб падвысіць да 60 удараў. У такім выпадку доктар павінен спытаць у пацыента – ці бегае ён марафон? А ў Глыбокім – доктар, калі ў чалавека 50 удараў, пытае – ці бегаеш? Калі чалавек бегае – доктар пігулкі не выпісвае! Разумны доктар!

Ахвотныя могуць прачытаць у "Народным доктары" аб тым, што жанчынам, а іх было некалькі, па заключэнні дактароў заставалася жыць 1 год, у 60-70 гадоў пачыналі бегаць, выздараўлялі, усталёўвалі сусветныя рэкорды ў марафоне, і занесеныя ў "Кнігу рэкордаў Гінеса". У Еўропе, Амерыцы ў марафонах удзельнічаюць да 30 тысяч чалавек, з іх 1200 чалавек прабягалі яго хутчэй за 3 гадзіны. У нас у Мінску – 20 тысяч. Праўда, на розныя дыстанцыі, самая даўгая – 21 км. Раней, каля 2010 года ў марафоне на 42 км удзельнічалі 125 чалавек. Сорамна стала, дык зрабілі паўмарафон.

У Глыбокім на стадыёне рэгулярна бегае адзін хлопчык, ды і то – 40 год яму. Наваполацкі "Нафтан" ужо некалькі месяцаў не атрымлівае заробак, таму, што завод не мае грошай. У Глыбокім жа створаны холдынг, які працуе прыбыткова, а малочна-кансервавы камбінат, які ўзведзены шведамі (а такіх у былым СССР – 5) уваходзіць у гэты холдынг. Можна запрасіць "Нафтан", яны з радасцю "прынясуцца" ў Глыбокае, дзе ёсць грошы, ды такі цудоўны стадыён, а то ў Наваполацку на стадыёне па бегавых дарожках паклалі нейкую гуму са стыкамі, праз якія можна ногі павыкручваць. А футбалісты "Нафтана" прынясуць прыбыткі – у касах будзе чарга за білетамі. А калі купіць легіянераў! То тады да нас могуць прыехаць на еўрапейскія кубкі іспанцы – і "Барселона", і "Рэал". Вось, тады будзе аншлаг! Стадыён трэба будзе павялічваць да 20 тысяч месцаў для заўзятараў. І атрымаеш ад футбола і задавальненне, і асалоду ад куміраў. А цяпер, пакуль не позна, навыперадкі з паліклінікай ляціце на стадыён за здароўем. Ура!

**Ад рэдакцыі.** *Нагадаем, на 16-й паласе нашай газеты пазначана: "Меркаванні выдаўца і аўтара могуць не супадаць". То бок рэкамендацыі нашага чытача спадара Андзілеўкі – толькі яго ўласныя рэкамендацыі, а ніяк не рэкамендацыі выдаўца і рэдакцыі газеты "ВГ".*



**Футбол на глыбоцкім стадыёне: ФК "Глыбокае"- "ПМЦ" Паставы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Глыбоцкі стадыён. Заўзятары хвалююцца за лёс матчу.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

IN-MEMORY

# Памяці Канстанціна Бахіра

Усе мы ходзім пад Богам… Што можа здарыцца з табой не тое, што праз месяц, ці заўтра, нават праз пяць хвілінаў, не можам прадказаць. Тэлефануюць аўтару гэтых радкоў з Глыбоцкага МНС: "Сёння ў рэанімацыі памёр Канстанцін Бахір, наш былы супрацоўнік…"

– Як? З-за чаго? Не можа быць! 62 гады – не той век, каб сыходзіць назаўсёды! Спартсмен! Вёў актыўны вобраз жыцця!

– Адрваўся тромб, перакрыў лёгачную артэрыю…

Ну, як так? Чалавек не курыў, займаўся спортам, бегаў марафон (42 км), і звышмарафон (100 км). Абліваўся ў мароз вядром ці двума вады са студні, заўсёды купаўся ў возеры на Хрышчэнне, на ровары "намотваў" кола да 300 км. І такое няшчасце з ім здарылася!

У гэтае, неверагодна анамальнае лета, кажуць, засцюдзіўся... Узніклі праблемы з лёгкімі. Спадзяваўся ачуняць уласнымі сіламі,



піў пігулкі, на дактароў не спадзяваўся… Шкада, усё магло б быць інакш. Гэта ў нас усе беларусы такія – сам выкараскаюся, да доктара не пайду. Немец, калі ж яму хоць засвярбела, адразу –да доктара!

Канстанцін ці, як мы яго ў сваім коле называлі, Кастусь, быў усебакова развітым чалавекам... Гэта ён, у дзяцінстве, у 1965 годзе, у вёсцы Гараўляны знайшоў скарб з арабскіх срэбных манет дырхемаў. Прыехаў тады славуты археолаг Георгій Штыхаў. Археалагічная сенсацыя, якая згадваецца ў шматлікіх кнігах! І да сёння Гараўляны не даюць спакою археолагам!

Фатограф аматар – праз усё жыццё! Ягонымі здымкамі Глыбоччыны ў "Аднакласніках" захапляліся ўсе!

На сваёй сядзібе па вул. Фізкультурнай (насупраць рынка) стварыў мініdэндрасад. Якія там толькі расліны не былі! Ківі, напрыклад, на клумбах – лаванда, эдэльвейсы…

Зацяты рыбак! Колькі ўжо глыбоцкіх, пастаўскіх і браслаўскіх азёраў разам наведалі. Ні ў каго клёву няма, а ў Косці – ужо дзясятак падлешчыкаў ляжыць на лёдзе.

Канстанцін Бахір жыва адгукаўся на любую прывабную прапанову! Паедзем у вандроўку?

– Паедзем! Свята сярэднявечнай культуры ў Полацку, рыцарскі турнір – едзем?

– Паехалі!

Шмат якія матэрыялы на старонках нашай газеты з'явіліся дзякуючы таму, што Канстанцін Бахір, як кіроўца свайго аўта, завозіў нас, журналістаў, у самыя аддаленыя куткі Глыбоччыны.

Вечны спачын дай яму, Пане! Спачуванні сваякам і блізкім Канстанціна Бахіра.

*Уладзімір Скрабатун.*

# Лёд для мінскіх крамаў вязуць за 800 км. Няўжо нельга намарозіць яго ў Беларусі?

**Журналіст Еўрарадыё Васіль Сямашка знайшоў на прылаўках аднаго з мінскіх гіпермаркетаў харчовы лёд, прывезены ў Беларусь... з Санкт-Пецярбурга.**




*"На ўпакоўцы пазначана, што гэта "вада пітная". Гэта значыць, тая, якая цячэ з вадаправода, —* разважае журналіст. — *Замарожаную ваду вязуць за 800 км. Цана 1 кг лёду — 2р. 36 кап. — даражэй за 2 літры квасу!" У краме 1 кг імпартнага харчовага лёду каштуе $1,2. Патэнцыял рынку ў Беларусі — агромністы. Круглы год лёд патрэбны кавярням, а ў сезон, калі слупочкі тэрмометраў запаўзаюць за +30, лёд карыстаецца попытам і ў звычайных пакупнікоў.*

Не жылі мы ніколі багата і не будзем пачынаць? Лёд вязём на Беларусь з Санкт-Пецярбурга! Самі намарозіць не можам?

Памятаецца, у 1960-я гг, калі аўтар гэтых радкоў быў яшчэ школьнікам, лёд у Глыбокім, узімку, нарыхтоўвалі ў цэнтры Глыбокага – на возеры Кагальным. Куды вязлі потым? Ну, напрыклад, на малаказавод, які тады месціўся ў будынку, што і сёння прылягае да царквы (былы кляштар кармелітаў). Малаказавод потым з'ехаў, бо пабудавалі малочна-кансервавы камбінат. Зайшлі мы неяк з мальцамі ўлетку ў падвал, а там – халадэча, як зімой! Бачым, лёд ляжыць у апілках. Ды, што там казаць! Нашыя паны і паненкі даўней, улетку, частаваліся марозівам, а халадзільнікаў у іх маёнтках тады не было, аднак былі лядоўні. Лёд нарыхтоўвалі ўзімку. Захоўвалі там мяса, малако, і марозіва таксама. І ніхто не вёз лёд з Санкт-Пецярбурга!

*Ул. Скрабатун.*

**Л. Ч. Барэйка,**
*медстатыстык Глыбоцкага РЦГЭ.*

# Даказана, вошы аддаюць перавагу здаровым і чыстым, а не брудным валасам!

## Прафілактыка заражэння педыкулёзам

**Сучасная медыцына перамагла большасць небяспечных захворванняў, ад якіх у мінулыя стагоддзі ў эпідэміях гінулі мільёны. Аднак перамагчы паразітаў, якія існуюць шматлікія стагоддзі, пакуль не атрымоўваецца.**

Так, яшчэ да нашай эры Герадот пісаў, што егіпецкія жрацы старанна галілі галовы, каб засцерагчы сябе ад вошай. Прайшлі стагоддзі, але, на жаль, праблема барацьбы з гэтымі дробнымі казуркамі актуальная і па сённяшні дзень. Памылкова лічыць, што вошы заводзяцца ў людзей, якія грэбуюць правіламі асабістай гігіены.

Даказана, што гэтыя казуркі аддаюць перавагу здаровым і чыстым, а не брудным валасам. Таму ад педыкулёзу не застрахаваны ніхто, незалежна ад матэрыяльнага становішча і выканання правілаў гігіены. Педыкулёз – спецыфічнае паразітаванне на чалавеку вошай, якія сілкуюцца яго крывёю. Паразітуюць на чалавеку тры віды вошай: галаўная, плацяная і лабковая. Галаўны вош жыве і размножваецца ў валасістай частцы галавы, пераважна на скронях, патыліцы і цемені. Сілкуецца кожныя 2-3 гадзіны. Развіццё яек адбываецца на працягу 5-9 дзён, лічынак – 15-17 дзён. Працягласць жыцця дарослых асобін 27-30 дзён. Самка адкладае штодня 3-7 яек, за ўсё жыццё ад 38 да 120 яек. Па-за целам гаспадара гіне праз суткі. Плацяная вош жыве ў складках адзення, асабліва ў швах, дзе і адкладае яйкі, прыляпляючы іх да варсінкі тканіны; яйкі могуць прыляпляцца таксама да валасоў на целе чалавека, акрамя галавы. Сілкуецца 2-3 разы ў суткі. Штодня адкладае каля 10 яек, на працягу жыцця ў сярэднім каля 200. Яйкі развіваюцца ў працягу 7-14 дзён, лічынкі 14-18 дзён. Сярэдняя працягласць жыцця дарослых асобін 34 дні, максімальна – 46 дзён. Лабковая вош, або плашчыца, па форме цела нагадвае шчыт, утрымліваецца на кароткіх валасінках лабка, броваў, павек. Пры значнай колькасці казуркі могуць распаўсюджвацца на ўсёй ніжняй частцы тулава, асабліва на жываце, дзе ў выніку іх крывасмактання надоўга застаюцца характэрныя сінюшныя сляды. Лабковая вош малярухомая, звычайна застаецца на месцы, пагрузіўшы свой хабаток у скуру чалавека, і смокча кроў часта, з невялікімі перапынкамі. Пладавітасць невялікая, самка на працягу жыцця адкладае не больш за 50 яек. Працягласць жыцця самкі каля месяца. Заражэнне людзей вошамі адбываецца пры кантакце з заражанымі педыкулёзам людзьмі ў перапоўненым транспарце, пры карыстанні агульным адзеннем, ложкам, спальнымі прыладамі, галаўнымі ўборамі, грабянцамі і іншымі прадметамі асабістага карыстання. Дзеці заражаюцца педыкулёзам пры зносінах у арганізаваных калектывах. Заражэнне дарослых людзей лабковымі вошамі адбываецца пры інтымным кантакце, а ў дзяцей – ад дарослых, якія даглядаюць за імі, а таксама праз бялізну. Вошы не скачуць і не лётаюць, але ўмеюць плаваць і поўзаць. У хвіліну вош можа прапаўзаць 30-35 см па зямлі і да 1м па вертыкальнай паверхні. У вошай добра развіты рэфлекс чаплляння, дзякуючы наяўнасці кіпцікаў на лапках. Гэта важнае біялагічнае прыстасаванне дазваляе ўтрымлівацца на валасах і адзенні. Асноўны сімптом педыкулёзу — гэта сверб. Ён узнікае ў адказ на раздражненне сакрэтам, які перашкаджае згортванню крыві, які вошы вылучаюць у месцы ўкусу, што дае ім магчымасць смактаць кроў на працягу 5-30 хвілінаў. У мэтах прадухілення заражэння педыкулёзам ажыццяўляюць прафілактычныя мерапрыемствы:

– мыццё галавы і цела гарачай вадой з мылам – не радзей 1 раз ў 7 дзён,

– змена пасцельнай і сподняй бялізны – не радзей 1 раза ў 7 дзён і па меры забруджвання,

– мыццё бялізны з кіпячэннем і наступным прагладжваннем гарачым прасам,

– рэгулярная стрыжка, расчэсваннем валасоў галавы,

– рэгулярная ўборка памяшканняў, утрыманне ў чысціні прадметаў абстаноўкі.

Пры любым выглядзе педыкулёзу (галаўны, адзежны, лабковы) можна ў аптэцы падабраць эфектыўны прэпарат і пазбавіцца ад паразітаў.

Лячыцца павінны ўсе, хто знаходзіцца побач з хворым. Больш таго, лячэнне павінна праходзіць адначасова з дэзінфекцыяй адзення, пасцельнай бялізны і памяшкання.

# Не ведаеце, што за грыб? Прайдзіце міма!

## Карысныя парады грыбнікам.

**М. І. Хілько,**
*урач-бактэрыёлаг (заг.мікрабіялагічнай лабараторыі) Глыбоцкага РЦГЭ.*

**Грыбны сезон – у поўным разгары. Знойдзецца мала людзей, каму не падабаецца так званае «ціхая паляванне».**

Усё ж пры зборы і ўжыванні грыбоў трэба быць вельмі асцярожным, каб не стаць ахвярай недарэчнага выпадку і не прынесці з лесу атруту.

На жаль, падобныя выпадкі не адзінкавыя. Штогод у Рэспубліцы рэгіструюцца выпадкі атручвання грыбамі, у тым ліку са смяротным зыходам. Усе пацярпелыя, з іх слоў, ужывалі ядомыя грыбы (смаржкі, апенькі, грузды, сыраежкі, лісічкі), якія ў большасці выпадкаў мелі падабенства з умоўна ядомымі і ядавітымі грыбамі.

Тым не менш клінічная карціна ў тых, хто захварэў, характэрная для атручвання грыбамі і хутчэй за ўсё бледнай паганкай, якую можна адрозніць па клубнепадобнаму патаўшчэнню ножкі і наяўнасці «каўнерыка».

Варта памятаць, што яд, які змяшчаецца ў неядомых грыбах, моцна дзеючы, не знішчаецца пры кулінарнай апрацоўцы. Для таго, каб пазбегнуць атручвання грыбамі, неабходна выконваць элементарныя правілы прафілактыкі:

– ідучы ў лес, неабходна ведаць відавы склад грыбоў і збіраць заведама толькі ядомыя грыбы, якія не выклікаюць сумневу. Убачылі ў лесе прыгожы грыб, але не памятаеце яго імя, прайдзіце міма, ваша здароўе і жыццё важней гэтай прыгажосці;

– грыбы – прадукт хуткапсавальны, таму іх трэба перабіраць і сартаваць адразу;

– сартыроўкай і гатаваннем грыбоў павінны займацца толькі дарослыя;

– перабіраючы грыбы, неабходна выбракоўваць старыя грыбы, так як пры старэнні грыбоў у іх тканках адбываюцца складаныя хімічныя працэсы з утварэннем атрутных рэчываў. У старых грыбах, нават такіх, як белыя, чырвонагаловікі, падбярозавікі, у працэсе старэння ўтвараюцца высокатаксічныя злучэнні;

– грыбы валодаюць здольнасцю паглынаць з навакольнага асяроддзя і назапашваць таксічныя рэчывы, у канцэнтрацыях у некалькі разоў перавышаюць утрыманне іх у глебе, вадзе, раслінах. Таму не збірайце грыбы ўздоўж аўтамабільных дарог. Усе грыбы неабходна адварваць, а адвар зліваць;



– **бацькам трэба памятаць, што грыбы павінны быць выключаны з рацыёну дзяцей да 3-х гадоў;**

– не праводзьце смажання грыбоў без папярэдняга адварвання і зліву адвара;

– нельга купляць кансерваваныя грыбы на рынках і па-за ўстаноўленых для гандлю месцах;

– пры першых сімптомах атручвання грыбамі (рэзкая боль у жываце, ваніты, панос, галаўны боль, якія пачынаюцца, як правіла, ноччу, праз 3-12 гадзін пасля ўжывання грыбоў) варта неадкладна звярнуцца за медыцынскай дапамогай.

Грыбы – гэта смачна і карысна! Але, каб пазбегнуць бяды, неабходна ўжываць у ежу толькі ядомыя грыбы, строга выконваючы правілы іх прыгатавання.

## МНС інфармуе

**на 08.08.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 422;
Гібель людзей – 56, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Траіх жыхароў Расонскага раёна будуць судзіць за забітага лася

**Трое жыхароў вёскі Грышына Расонскага раёна, папаліся інспектарам, калі ў заплечніках неслі мяса разабранага лася дадому. Яны спрабавалі збегчы, і аднаму з браканьераў удалося схавацца.**

Двое затрыманых сталіся роднымі братамі, і яны адразу ж здалі трэцяга, больш таго — распавялі, што менавіта ён быў завадатарам нелегальнага палявання. Пасля здабычы лася мужчына схаваў стрэльбу і ўсе трое заняліся раздзелкай тушы. У дзяржінспекцыі схільныя верыць братам, так як збеглага мужчыну восенню мінулага года затрымлівалі ў лесе з дзвюма нелегальнымі стрэльбамі. Акрамя гэтага ён прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці і за бойку, і за кіраванне без правоў. Пасля гэтага за вяскоўцам усталявалі прэвентыўны нагляд.

Нядаўна ён пераехаў з Расонаў у вёску Грышына, «бліжэй да прыроды», як вынікае з іх тлумачэнняў праваахоўнікам, і ўзяўся за старое. Уцекача хутка знайшлі і заключылі пад варту. Распачатая крымінальная справа па факце незаконнай здабычы лася, у парушальнікаў канфіскавалі 86 кілаграм мяса. Траім вяскоўцам трэба будзе выплаціць у казну амаль 7000 рублёў за прычыненую прыродзе шкоду, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

*ННВ.*

